


1930, N1

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДЗКА-НАВУКОВА-ЛІТЭРАТУРНЫ ЖУРНАЛ .



## Ад Рэдакцыі.

Прайшло немаль 10 год з таго часу, калі латвійскія беларусы сталі перад заданьнем абуджэньня свайго нацыянальнага духу і заняцьця належачага ім мейсца сярод іншых нацыянальнасьцяў.

У тыя цяжкія гады - гады змаганьня за нацыянальнае існаваньне і праўнае становішча у дзяржаве - беларусы мелі жыватворчую крыніцу, з якой чарпалі маральную моц да аховы свае індывідуальнасьці, гэта - чыстае, высокае полымя нацыянальнае ідэі .
Гэтая пуцяводная зорка, гэты негаснучы сьвяты вагонь у грудзех тых змагароў зрабіў і даў нам тое праўнае становішча і маральны грунт, на якім мы зараз стаімо.

Але, дасягшы правы грамадзянства, - мы згубілі самае каштоўнае і сьвятое - мы згубілі вялікую думку нацыяналізму.
Той магутны рычаг, які кіраваў нас да сьвету, зьнік у пылу настаўшае для нас жыцьцевае штодзеннасьці. Мы заблыталіся у кросах паасобнае індывідуальнае думкі, мы страцілі нашу калісь агульную, адзінную мову, мы - гарэтыя аднэй нівы - сталіся чужымі.

Вызнаючы безумоўную патрэбу індывідуальнае думкі, як і натуральнасьць розных палітычных пагляду, што зьяўляецца атрыбутам грамадзкага жыцьця культурных людзей, мы, аднак, стаімо на тэй плятформе, што пачуцьце нацыянальнае і абавязак, які накладае на нас прыналежнасьць да пэўнае нацыі, мусіць быць наймацнейшым імпульсам істоты чалавека, носячага з гордасьцю свае нацыянальнае імя. Мы, латвійскія беларусы, яшчэ даволі слаба стаімо тут на сваіх

нацыянальных падставах, таму, па нашай думцы, захопленьне рожнымі палітычнымі кірункамі і вынікаючая адсюль вялікая рожнадумнасьць, нават мы сказалі-б, нецярплівасьць да думак іншых, ні ў якім разе не павінны былі-б адбівацца на нашай і так ня дужа моцнай культурнай, нацыянальнай працы.

На жаль гэта ня так.

Пры самых рожнаадменых паглядах на рэчы, у самых гарачыя моманты палітычнае і грамадзкае нязгоды, нельга забывацца, што ўсе мы перш за ўсе беларусы, дзеці аднае зямлі, аднае маці аб існаваньні якой мы не маемо права забывацца і зьнявага якой есьць ганьба.

Мы лічымо, што поўная сьвядомасьць нацыянальная есьць першае аружжа, з якім трэба выходзіць на прасторы грамадзкага жыцьця ; гэта есьць тая духовая моц, той магутны рычаг, які перамагае ўсе.

Дык паспрабуймо-ж зноў знасьці нашу адзінную мову, якую разумелі-б усе і кожны з нас, паспрабуймо зноў супольна гараць нашы родныя аблогі і сеяць моцнае найсьмецейшае зерне - вялікае пачуцьце багавеньня і каханьня да свае нацыі !

# Б Е Л А Р У С Ы !

Прайшло 8 год з часу, калі мы - беларуская меншасьць ў Латвіі - былі дароўнены ў правох да іншых меншасьцяў і здабылі права разьвіцьця свае ўласнае, роднае культуры. 8 год назад былі расчынены першыя беларускія школы і іншыя прасьветныя установы, пачалі закладацца беларускія культурныя арганізацыі; пачалася праца шпаркая, жывая, ў якой беларускае інтэлігенцтва духа сьпяшалася дагнаць той час, які сьцек ў цяжкія гады ўціску ўсяго таго, што сьвята кожнаму беларусу.
Наша родная беларуская мова, загнаная раней у падпольле і вольна гучаўшая толькі па цемных пакутных вёсках Латгаліі, шырокай хваляй вынясла(ся) з тулі і разьлілася - праўная і роўная іншым - немаль па ўсей Латвіі. - Ідэевая беларуская моладзь, удзячная латыскаму народу за гуманнае адношаньне і поўная веры у невычарпаныя духовыя крыніцы свайго народу, з захопленьнем аддалася працы на роднай ніве, ставячы сабе мэтай абуджэньне нацыянальнага "я" у цемных заштурханых душах беларускае гушчы і ўздым беларускае культуры на належную вышыню.
І спаўшыя датуль у беларускай массе пачуцьці абудзіліся і пачалася вялікая справа нацыянальнага адраджэньня.

Але, на вялікі жаль, ў Латвіі апрача прыхільнага нам латыскага народа, даўшага нам права на легальнае духовае жыцьцё, жывуць яшчэ і братнія нам народы вялікарусы і палякі, рэакцыйныя элементы якіх здавен-даўна прызвычаіліся дусіць ўселякую праяву самабытнага нацыянальнага духа асобных народаў. Гэтыя два народы, асабліва першыя, па свайму гэтаму старому звычаю, здалелі і зараз - у першыя заснаваньня Латвійскай дзяржавы - раздзьмухаць сваю моц і значаньне за кошт забітага беларускага жыхарства.

Шчыры запал і самаахвярнасьць беларускіх працаўнікоў выклікала ў гэтых элементах жвавае непакойства; яны адчулі небасьпеку згубіць тыя безадказныя массы чужога народу, якія здавен яны ашуківалі, карыстаючы з безбароннасьці і цямнаты гэтых массаў.
І вось дасьледныя і спрытныя ў працы гэткага роду, яны распачалі сваю дзейнасьць, накіраваную на дэмаралізацыю беларускага жыхарства, на руйнаваньне беларускіх нацыянальных школ шляхом ашуківаньня і запалохваньня бацькоў беларускіх дзяцей, на праваканьне сьвядомых беларускіх дзеячоў.
Годнымі вынікамі гэтае дзейнасьці зьявіліся: пераход у іншыя аддзелы і зачыненьне беларускіх школ, і беларускі судовы працэсс у 1924-25 г., ў якім лояльны Латыскай дзяржаве беларускі народ абвінавачваўся у дзяржаўнай здрадзе.
З гэтай спробы дыскрэдаваць беларускую меншасьць мы вышлі падсечанымі, але чыстымі: ворагі нашы не трапілі давесьці свае агідныя правакацыйныя выдумленьні. -

Зьневажаныя, зацяганыя па палітычных управах, беларускія змагары за нацыянальную праўду зноў няўкосна пайшлі па старому шляху і пачалі як мурашкі нанова будаваць свае разбураныя сьвятарні.

Б е л а р у с ы ! У тую цяжкую гадзіну мы вийшлі пераможцамі з пакуты, нарыхтаванай нам нашымі ворагамі, а зараз - зараз мы зноў стаімо на рубяжы. Наш стары вораг не сьпіць і зноў распачаў паход, накіраваны на зьнішчэньне таго, што здабыта і абаронена намі ў цяжкой працы і змаганьні. Нашы школы у небясьпецы, бо спрытныя агенты ворагаў пускаюць ў ход ўселякія сродкі, каб абдурыць і запалохаць маласьвядомае беларускае селянства, каб адняць і зьневажыць нават саму родную мову і падбухторыць яго на адмову ад роднае школы. - Зараз - перад агульным народным перапісам - гэта праца разгарнена імі асабліва моцна і, дзеля нашае мягкасьці, згодалюбства і імкненьня да добрых адносін, пачынае прыймаць адчынена-нахрапны характар.

Б е л а р у с ы !
Не паддамося уґаворам і хітрыкам тых, хто зараз з мягкімі і салодкімі словамі выдаюцца за дабражаданьнікаў і нашэптываюць у вушы няхітраму народу рожную ману і абяцанкі, а пасьля - па здабыцьці таго, што ім трэба, пакажуць свой за праўдны твар. Ганіце ўсіх, хто робіць замахі на родную мову і школы вашы ; моцна стойце на сваім нацыянальным грунце і бараніце тое, чым жыў народ і што дае яму права на духовае істнаваньне. Усі памятайце, што вы беларусы, што назова гэтая мусіць быць сьвятая кожнаму з нас, якой зрагчыся - есьць зрабіць праступак перад сваім суменьнем і будучыней сваіх дзяцей.

Моцна памятайце, што, зракаючыся свае школы, нацыянальнасьці і мовы, зракаецеся права на жыцьце, бо яшчэ даўней наш вялікі народны пясьняр Мацей Бурачок сказаў: „ Не забывайце мовы нашай беларускай, каб не памерлі".

Б е л а р у с ы !
Не зьняважымо гэтае найменьне "беларус" і не дадзем ворагу яшчэ раз пасьмяяцца і пазьдзекавацца над намі. Хопе ўціску і ганьбы ! Мы вольныя людзі !

Дык жа сьмела глядзімо ўперад і сьмела крычым нашым ганебнікам: Прэч рукі, вараньне ! беларусы жылі, жывуць і будуць жыць !



П. Журкоўскі.

# Нашы заданьні.

Гісторыя часу паказывае нам, што моладзь займае у палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці моцнае становішча, што яна адвечна была тым імпульсам, тым актывам, які накіроўваў жыцьце наперад.- Даводзіць гэта не патрэбна, ведаючы тую моц, тую энэргію, з якой ідзе яна праз крыжавыя дарогі, праз перасьледаваньні і ўціскі да новага жыцьця.-

Апошняя рэвалюцыя - выбух за лепшую будучыню - была падтрымана і нават кіруема акадэмічнай моладзьдзю - студэнствам. Гэтыя выбухі залепшую будучыню, за свабоду, волю, за адвечна шуканую кветку папараці - клікалі беларускую моладзь.

Яна з вялікім запалам і энэргіяй кінулася у вогнішча рэвалюцыі, не шкадуючы свайго жыцьця за лепшае будучае. Але гэтыя першыя парывы моладзі, як і яна сама, былі схаваны пад лавай рэвалюцыі.

Зараз перад намі - сучаснай беларускай моладзьдзю -, якая пасьля пажару усясьветнае бойкі апынулася перад голымі руінамі Бацькаўшчыны, паўстае пытаньне: з чаго пачаць і якія нашы заданьні.

Прыймаючы тыя ці іншыя напрамкі, імкненьні, беларуская моладзь павінна ведаць, што адны з іх маюць значаньне, вартасьць і вагу толькі часовую, гістарычную, другія - вечную.

Мы, беларуская моладзь, стаімо на раскрыжаваньні, мы топчамося на адным мейсцу. Частка моладзі па ўплывам пэўных палітычных абставін, паасобных грамадзян, якія страцілі веру у памысласьць працы і пачынаюць ставіць справу асабістую, альбо матэр"яльную, вышэй за агульна-грамадзкую і нацыянальную, якраз паддалася гэтаму цячэньню, у той час, калі перад намі ляжыць вялікая адказная праца.

Прыйшоў час, калі беларуская моладзь павінна скінуць з сябе ўсе тое благое, тую агрубеласьць, што пакінулі нам ў душы розныя, часам і надта цяжкія, абставіны жыцьця, але аб"яднацца і пайсьці ў народ і з народам, і паказаць сваю энэргію, якая дагэтуль нямаль спала.

Амаль што усе мы вийшлі з сялянскага працоўнага народу, ўсе мы ведаем яго гаротнае жыцьце і, нрсячы ўсябе як перажытае весь ціжар гэтага жыцьця, - ніколі не зможамо павясьці наш народ памылковым шляхам, а гэтае дае нам права стаць правадыром яго.

Мы - нарастаючая моц -, цьверда стаючы на грунце барацьбы за лепшую будучыню нашага народу, нашае Бацькаўшчыны, павінны значнае зрабіць у гэтым напрамку.

У першую чаргу, атрымліваючы асьвету, мы не павінны выракацца свайго народу, як гэта часта рабілася да часу вайны, калі сыны беларускага народу, здабыўшы асьвету, часта стыдаліся свае мовы, свае нацыі і, часам, выракаліся сваіх бацькоў.

Кліч Мацея Бурачка „ Не пакідайце мовы вашай беларускай, каб не памерлі ", павінен стаць нашай пуцяводнай зоркай, бо ен мае сваю гісторыю, навокал якога гуртавалася бе-

ларуская інтэлігенцыя, бо запраўды, што можа быць найдаражэйшым для беларускага народу у яго становішчы, як не захаваньне свае роднае мовы. Пад гэтым клічам з жывасьцю і яснасьцю нарадзілася ідэя змаганьня за праўнае нацыянальнае існаваньне нашага народу.

Ідучы наперад, нам трэба абапірацца на наша мінулае, якое жыве у духовым скарбу нашага народу. Таму мы павінны цікавіцца яго мінуўшчынай - зьбіраць народныя песьні, легенды, байкі, пагаворкі, навуковыя матар'ялы, архэолегічныя памяткі, беларускія арнамэнты; мастакі нашы павінны зафіксаваць пекнасьці нашае вескі, нашых чароўных прастораў.

Працуючы у напрамку зьбіраньня „душы" нашага народу, мы прынясем пасільную долю карысьці навуцы і беларусазнаўству.

Пакуль што мы знаходзімося у такіх абставінах, калі наша культурна-асьветная праца ідзе дужа паволі; школы беларускія не маюць цьвердага грунту; напуджаныя пасобнымі ворагамі беларускага адраджэньня селяне адносяцца скептычна да ўсіх жадаючых нясьці яму карысьць, таксама ставяцца яны і да моладзі, якая ідзе па шляху аб'еднаньня і супольнае працы, што магло-б ўмацаваць становішча сялянства ва ўсіх праявах грамадзкага жыцьця. Ланцугі страху, якія скавалі беларускага селяніна, могуць быць парваны толькі тады, калі мы дакажам яму сваей працай, хто мы такія і чаго жадаем, а асьне пойдзем на дапамогу беларускаму селяніну у барацьбе яго за сваю беларускую школу. Гэта будзе найвыразьнейшы доказ таму, што мы шануем сваю родную мову, як дарагі скарб народу.

Таксама мусімо зьвярнуць увагу на свае самавыхаваньне, бо нашыя гады - гэта час, калі наймацней, найвыразней, найтаўней ўкладаецца характар. - У сябе мы павінны выхаваць людзей не эгоістаў, не кар'ерыстаў, не карыстнікаў, але тых гуманістаў, якія будуць дбаць аб шчасьці і дабры свайго народу і грамадзкую нацыянальную справу паставяць вышэй за ўсе.

І яшчэ адно і самае галоўнае: гэта нацыянальнае усьведамленьне селянскіх і працоўных беларускіх массаў, - кажу нацыянальнае, ня дай Божа нацыянальна-шавіністычнае, бо здаровае нацыянальнае усьведамленьне беларускага народу есьць тымчасам адзіны пэўны шлях да лепшай долі.

Ускладаючы на сябе гэтыя заданьні, нам трэба мець асьцярогу, каб не пайсьці тым шляхам, якім пайшлі нашы уваскросшыя браты-народы (калі можам іх называць братамі).

Мы павінны высьцерагацца шавіністычнае вопраткі, якая пануе у нашых суседзяў, але апрануцца у прыгожае, здарова-нацыяналістычнае адзеньне, як было, павінна быць і будзе гордасьцю кожнага народу.

Вось гэты рух, імкненьні беларускае моладзі не страцяць ніколі вагі, але будуць мець значаньне вечнае, як імкненьні да агульнага дабра і шчасьця.

Гэта - заданьні беларускай моладзі!

В. Вальтэр.

## Да моладзі.

- „Мы ўсе - народжаньні нашага беснаватага веку ", сказаў калісьці Оскар Уайльд і, запраўды, кожны з нас носіць на сваім твары, на сваёй псыхіцы адбітак страшных дзен мінулага. - Хто з нас за гэтыя страшныя, жахлівыя часы не перажываў якой - небудзь трагедыі, хто ня ведаў за сабой хвілін, калі яго жыцьце стаяла перад вачыма ўсемагутнай сьмерці, хто з нас ня ведаў холаду, голаду і рожных іншых цярпеньняў у гэтыя часы вайны і сацыяльнай ломкі.

Калі можна сказаць пра старэйшае пакаленьне, што яно выйшла з ўсіх беснаватых падзей новым, пакалечаным, разьбітым, як пры нейкім землятрусе, і на старых руінах пачала будаваць новае жыцьце, - дык што тады можна сказаць пра новае, маладое пакаленьне, якое якраз радзілася пад гукі гармат, пад адсьветы пажараў ? ..

Якая душа гэтага маладога пакаленьня, якія настрої у гэтых новых людзей, зьбіраючыхся стаць будаўнікамі новага чалавечага дому ?

Пісьменьнікі ня далі нам яшчэ яскравага, цікавага вобразу новай моладзі у літэратуры, але у жыцьці гэтых юнакоў мы ўсе добра бачым і добра ведаем, што, калі параўнаць „век сучасны і век мінулы", розьніца вырастае велізарная.

Сучасная моладзь вырасла ў часы ломкі ўсякіх ідэалаў і ўсяя ідэальнага, ў час панаваньня грубай, фізычнай сілы, ў час завостранай барацьбы за існаваньне. Колькі прафэсыяў прыходзілася перапрабаваць некаторым у самыя маладыя, нясьпелыя часы, ў такія гады, калі старое пакаленьне, „бацькі", яшчэ лічыліся проста дзяцямі.

Міхаіл Зошчэнко, напрыклад, апавядае у сваёй „Аўтабіографіі", што ен 3 разы выводзіўся на радзе, 2 разы быў цыркавым клоунам, грузчыкам, носчыкам і г.д. Мы яму ня маемо падставы ня верыць. Шмат хто можа без ўсякай літэратурнай прыкрасы расказаць тое самае.

Зразумела, што, вырасшы без ідэалаў, або бачыўшы, што ўсе ідэалы ня маюць ніякае абсалютнае вагі, што ўсе яны валяцца, як картачныя дамкі, моладзь сучасная сама стала безпрынцыпнай, безідэальнай, агрубелай, груба матэрыялістычнай. Не дарма у нашыя часы вырастае агрубелае, дзікае шанаваньне спорту.

Сучасная моладзь сьмяецца над ўсякімі ідэальнымі жанчынамі, над „рыцэрствам " па адносінах да жанчыны, над ідэальным характарам каханьня, зводзячы яго да голага сэксу полу. - Усе стала нейк агаленым, быццам нехта ўзяў і грубай рукой сарваў усе прыгожыя адзежы з жыцьця, пакінуўшы ўсім на агляд адзін толькі яго шкелет. Мы аглядаем гэты шкелет і кажам „ вось гэта так і трэба... Вось гэта рэальна... Можа быць такая агрубеласьць, агаленасьць жыцьця па вашаму ня прыгожа. Але трэба прызвычаівацца да рэальнага, час перастаць быць рамантыкамі " ...

Як толькі сказана гэтае страшнае слова „рамантык",

ўсе скончана, людзі перастануць спрачацца. Цяпер усе – практычныя людзі. І у гэты практычны век быць рамантыкам знача тое самае, што у сярэднія вякі значыла быць герэтыком.

Усе лічуць сябе цяпер практычнымі людзямі – матэрыялістамі. І гэта, здаецца, ня толькі у нас але і на Захадзе ў Эўропе, якая заўсёды была мяшчанскай і якую за гэта так ненавідзеў Дастаеўскі, проціпастаўляючы ей ідэйны рэлігійны Усход...

Цяпер жа гэты матэрыялізм зьвіў сябе асабліва сьцiслае гнязде на Ўсходзе, ня толькі як чыста тэорэтычнае, філязофскае вучэньне, але як і практычнае паводжаньне. Рамантыка – гэта прыгожая адзежа жыцьця – павінна быць выкінута. Павінен застацца адзін шкелет, – грубы і страшны у сваей рэальнасьці. – І гэты матэрыялізм цэлым ідэйным цячэньнем плыве зараз з Ўсходу, да нас больш з радзянскае Беларусі, дзе ен стаў альфай і амегай сьветагляду кожнай крытычна-думаючай асобы, і паступова захоплівае нашу беларускую моладзь у свой кругаварот.

Ідэалізм павешаны на крыж. Ідэалізм вядуць на Голгофу і кожны крычыць: „распні яго".

Моладзь лічыць, што гэта так і трэба. Што трэба сьмяяцца з ўсякіх ідэалаў "бацькоў", якія завялі гэтых "бацькоў" у тупік, паставілі іх перад разьбітым карытам, і яна крычыць: „Годзе нам ідэалаў!"

Ей трэба толькі пакласцца на сваіх вучыцялеў, як ўсе робіцца зразумелым. Вучыцялі вучылі моладзь, што гісторыя людзкасьці рухаецца не любоўю, а эканомікай. Вялікі эканаміст Карл Маркс сказаў, што „не сьвядомасьць людзей акрэсьлівае грамадзкае быцьцё, але наадварот – грамадзкае быцьцё акрэсьлівае сьвядомасьць людзей."

А калі гэта так, дык адсюль можна зрабіць адзін важны вывад: мы усе павінны заняцца эканомікай. Наша сьвядомасьць нічога ня зробіць і таму ўсе нашы ўзьлеты – гэта ня болей, як спробы прабіць сьцяну лобам. І таму закіньмо ўсе ўзьлеты, будзем гадаваць сьвіней і засяваць свой агарод...

Можа быць гэта і так. Хто ведае, можа нашай моладзі толькі і застаўся выхад стаць сьвінаводамі. Можа матэрыялізм назаўседы запануе над яе ідэалізмам. Можа быць гэта так і трэба, паўтараю. Матэрыялізм, паказаўшы нам шкелет жыцьця, павінен атрымаць перавагу над ідэалізмам, апранаючым жыцьцё у рознакалерныя вопраткі.

Але тут мне зараз прыходзе на памяць надзвычайна цікавае апавяданьне Максіма Горкага: „О чиже, который лгал, и о дятле, любителе истины."

Чыж прыгожа клікаў птушак за лес, падняцца ўсім паглядзець на тыя чароўныя небасхілы, якія адчыняюцца за лесам. Ён так цудоўна сьпяваў, так прыгожа клікаў ўсіх птушак ляцець, каб мець права сказаць, што "мы – ўсе", а не сьляпая сіла багоў", што ўсе птушкі заслухаліся.
І вось раптам застукаў дзяцел. „З фактамі ў руках", пачаў ен, „з фактамі ў руках, паважаныя грамадзяне, я дакажу, што там пачынаецца за лесам." І ен даказаў ясна і лёгічна, што чыж памыляецца...
Птушкі не паслухалі чыжа і не паляцелі туды, куды ен іх клікаў. Іх хутка ня стала ў лесе. А чыж, бедны маленькі

чыж, плакаў...
Чыж быў рамантык, чыж быў ідэаліст, - дзяцел - скэптык, матэрыяліст.
І Максім Горкі пакінуў нам самім вырашыць праблему, на чы-ім-жа баку была ісьціна: на баку дзятла, які казаў "з фак-тамі ў руках" ісьціну, ці чыжа, які махляваў? Аб гэтым мне вось і хацелася запытаць саму моладзь на старонках яе часо-пісі: з кім жа яна: з дзятлам скептыкам, ці з чыжом-раман-тыкам?
Я, асабіста, вырашаю гэта пытаньне так: дзятлы магчы-ма, правы. Ня будзэмо спрачацца з фактамі ў іх руках. Можа быць нашым жыцьцем, нашымі думкамі кіруе толькі экономіка. Але без чыжоў, без парываў, без рамантыкі мы ніколі не пас-мелі бы выглянуць за лес на чароўныя небасхілы будучага. І калі-б зьявіўся хто небудзь вялікі, які мог-бы асьвяціць наша жыцьце якім небудзь ідэалам, - хіба ня было-б добра, каб мы паляцелі на яго, як матылі на вагонь!
У канцы канцоў - што такое наша жыцьце, як не марудная зга-раньне сьвечкі, а што-ж такога, калі нехта з нас згарыць больш яскравым, больш пригожым вагнем.
Карацей кажучы я асабіста станаўлюся на бок беднага маленькага чыжа-рамантыка, і мне хочацца клікаць нашу мо-ладзь - дзяцей жахлівага, беснабагага веку - стаць на мой бок і слухаць заўседы чыжоў, а не дзятлаў. Мне хочацца клі-каць не проста моладзь, а ўласьне - беларускую моладзь. Беларуская моладзь выйшла большай часткай з гушчы сялян і работнікаў. Усе жыцьце яе праходзе пад адным знакам, зво-дзіцца да аднаго значніка - кавалка хлеба. Наша моладзь прымушана зьвяртаць увагу толькі на адзін бок жыцьця, на матэрыяльны, на экономіку. Колькі мне прыходзілася бачыць гэтых новых людзей сярод моладзі. Колькі сумнага пабачыў я ў гушчы беларускага студэнства, якое, большай часткай, мэтай сваей ставіла .... элегантна апранўцца! І цяпер - колькі цікавага вы пабачыце сярод нашага вучыцельства, якое магчы-ма выйшла ідэальна настроеным з гімназіяў. На дзе-якіх асобах гэтага вучыцельства цікава праканацца, як зассасвае нас жыцьце, як матэрыяльныя інтэрасы ўбіваюцца у мозаж чала-века, як чалавек, нарэшце, зусім гіне ў балоце мяшчанства, з якога іх не выцягнуць ніякімі сродкамі. Мяшчанства - тое абмяжаваньне, апошліваньне, апаганеньне чалавечага воб-ліку, якое так ненавідзеў усімі фібрамі душы Дастаеўскі - зноў стаіць перад беларусамі і перад беларускай моладзьдзю, як жахлівы прывід хваробы. - Аб гэтым трэба гутарыць, аб гэтым трэба чытаць на грамадзкіх паседжаньнях даклады, з гэтым трэба змагацца.
Мы ўсе разумеем, што наша модадзь б"ецца за істна-ваньне, як ніякая іншая моладзь. Але вось якраз таму й пат-рэбна, каб нашай моладзі, можа быць больш усяго думаючай аб эканоміцы, ўпрыснуць у кроў крыху лекарскіх зелак ідэа-лізму.
Разам з гэтым нам трэба змагацца за больш ідеевае ця-чэньне сярод моладзі, за паглыбленьне ў ех духовых асноў, за зьнішчэньне механізацыі чалавека нашага часу, за зьніш-чаньне механічнага шанаваньня спорту.
Мы павінны звольніцца ад тэй агрубеласьці душ, якую

[illegible] "), ад тэй пашаны грубай фізычнай сілы, якая у нашы часы вырастае у нейкія выпадковыя формы культу, як, напрыклад, бокс.

Словам, моладзь павінна паслухаць маленькіх чыжоў, клічучых яе далей ад заўседнага жыцьця за якімі небудзь ідэаламі. Прыгожа увайсьці у жыцьце, прыгожа прайсьці па жыцьцю і прыгожа скончыць жыцьце, вось тая формула, якая павінна стаць путяводнай зоркай нашае моладзі.

Я ведаю, што з Усходу ідзе цячэньне, якое адкідае ўсякія ілюзіі, якое прызнае толькі практычнасьць, якое толькі механізуе, матэрыялізуе і ў канечным рахунку абмешчанівае маладыя душы.

І таму заўседы з гэтага ўсходняга лягеру могуць быць кінуты закіды: на што прышчэпліваць моладзі дарэмныя ілюзіі, на што не рабіць яе рэальнай і працаздольнай. На гэта можна адказаць адно:

Жыцьцэ зрабіла нашу моладзь і так ўжо рэальнай, можа быць занадта рэальнай. Ей трэба гэтых ілюзій якія асьвяцілі-б хоць нейкім сэнсам яе цяжкое рэальнае жыцьце. Нават для працоўнай моладзі фабрык і заводаў патрэбны гэтыя, асьвятляючыя новым сэнсам, ілюзіі, бо яны падымаюць вартасьць чалавека і не даюць магчымасьці маладой душы загінуць у дрыгве мяшчанства...

І таму, канчаючы свой кароткі нарыс аб моладзі, ня вычэрпаўшы шмат якіх пытаньняў і асьвяціўшы некаторыя з іх толькі павярхова, мімаходам, я зьвяртаюся з заклікам да ўсіх, хто яшчэ аканчальна ня ўлез у гэтае страшное балота, да працы.

Прыналяжам, браты, на веслы!
Сьмялей! Плячом к плячу будзем грабсьці, будзем перамагаць сілу ночы! Бо ўсежткі, як сказаў Короленко: „Ўсе-жткі на перадзі вагні!"

Веска Плейкі. 1929.г.

---

Усі заўвагі аўтара аб спорце Рэдакцыяй не падзяляюцца. ")

Я.Кастылюк.

# Школа і яе недахопы.

Школа зьяуляецца культурным асяродкам таго раёну, у якім яна істнуе. У розныя часы свайго істнаваньня яна перажывае як і часіны свайго росквіту - залатую пару свайго жыцьця -, так і часіны заняпаду. Рост яе то значна павялічваецца, разбракае, ахапляе ня толькі ўсю моладзь свайго раёну, але яшчэ прываблівае да сябе значную частку моладзі з іншых раёнаў, то наадварот.-
У старыя часы мала зьвярталі на гэта увагі і Урад і самаўрады, і таму часам, у адным раёне школа істнавала з 100 - - 120 вучнямі пры адным вучыцялю, а побач з ёю школа з 30 вучнямі таксама пры адным вучыцялю і пры лепшых матар"яльных абставінах.-

У апошнія часы царскае Расіі Міністэрства Асьветы выпрацавала ідэальныя школьныя сеткі ( 3 клм.) дзеля таго, каб задаволіць ўсіх дзяцей школьнага ўзросту і такім чынам падыйсьці бліжэй да абавязковага навучаньня. Палітычныя уплывы з аднаго боку і благое становішча грамадзянства ў сэнсе матэр"яльным з другога боку, не давалі магчымасьці дзяцем школьнага ўзросту прайсьці нават цераз царскую трохзімку і школы, пачынаючы з 1900 г. адчыняліся ўсе ў большай лічбе. Перад вайной школьная сетка была немаль што праведзена ў жыцьцё, але процант няпісьменных мала зьнізіўся, падымаючыся ў адным школьным раёне да 50 % і апускаючыся да 2 - 5 % сярод дзяцей школьнага ўзросту.

Настала вайна, а за ёй рэвалюцыя. Вырасьлі на валоліцах царскае імпэрыі дэмакратычныя дзяржавы, якія пачалі будаваць свае жыцьцё на крушнах старога, адмыўшага. Была зьвернута вялікая увага на школы, асабліва ў нашай дэмакратычнай Латвіі, дзе законам аб культурна-прасьветных установах ўведзена абавязковае навучаньне з штрафамі за кожны прапушчаны вучнем дзень.
Міністэрства Асьветы, павятовыя і валасныя самаўрады выпрацоўваюць школьныя сетку, праграммы мінімальныя і максімальныя, адпускаюць вялікія грошы на пабудову прыгожых школьных будынкаў, на стыпэндзіі і дапамогі у сярэдніх і вышэйшых школах, а у апошні год пачалі выдаваць за ўсіх школах бяднейшым вучням вопратку і абуткі і немаль што ўсім гарачыя сьнеданьні і абеды. І ня глядзючы на ўсе гэта, прывабіць ўсіх дзяцей школьнага ўзросту да школы не ўдаецца, ў кожным школьным раёне набярэцца ад 10 да 30 % дзяцей, не адведываючых школу. Праўда, штравных грошаў у скарбовых скрынках павятовых і валасных ўпраў німа, але рубрыкі ( дзеці па-за школай) у ведамасьцях істнуюць і мяне самому прыходзілася бачыць у гэтай рубрыцы досыць значныя лічбы, пераважаючыя часам лік вучняў, адведываючых школу.

Можна было-б прывесьці цэлы шэраг школ, гдзе 3-4 гады назад было 70-90 вучняў, а зараз 25-30 ня глядзючы на тое, што школьная сетка за гэтыя гады не зьмянілася і аб-

ставіны мясцовага жыхарства таксама.

Такое адносіньне грамадзян да школы змушае павятовыя і валасныя управы амаль кожны год мяняць школьную сетку, пасоўваючы тую ці іншую школу то ў адзін куток воласьці, то ў другі.-

Вось і ў гэтым годзе зараз па Люцынскім павеце Школьнай Управай выпрацоўваецца ідэальная сетка ў зьвязку з пабудовай новых школьных будынкаў: прадстаўнікі Школьных Упраў па цэлых тыднях сядзяць у Валасных Управах, абходзяць кожную вёску, амаль што кожную хату, наносяць на пляны ідэальныя цэнтры і г.д., адным словам праводзіцца вялікая праца на мейсцы, але карысьці ад гэтага, мне здаецца, будзе мала.

Што рабіць, як палепшыць школьную справу, каб зьліквідаваць няпісьменнасьць сярод латгальскага жыхарства наогул і асабліва сярод беларускага жыхарства ў Латгаліі? Што перашкаджае школе прыцягнуць да сябе ўсіх дзяцей школьнага ўзросту свайго раёну ?

Каб адказаць на гэтае балючае пытаньне, падойдзэмо бліжэй да вясковае школы незалежна ад таго, ці зьмяшчаецца яна ў былым панскім палацы, ці ў вясковай хаце. Вядома, лепей падойдземо да вясковай хаты, бо ў палацы зьмяшчаюцца дзяржаўныя школы, добра абсталяваныя, з вялікім бюджэтам на вопратку, абуткі і абеды вучням - да 200.000 р. ў год і болей.- Прыглядзімося, з якой массы камплектуецца школа, хто ў ёй працуе і як працуе, ці запраўды школа зьяўляецца культурным асяродкам сярод вясковага жыхарства.

Да сярэдзіны кастрычніка і пачатку лістападу, а ў гэтым годзе нават да 15 сьнежня, латгальскія пачатковыя школы, ў тым ліку, вядома, і нашы беларускія школы, напалову пустуюць ня толькі на вёсцы, але і ў гарадох. Нават вучыцель зьяўляецца ў школу толькі пасьля Пакрава, да гэтага часу школа зачынена на замок ці падперта проста калом.

Чаму-ж гэта так ?

А вось таму, што латгальскае жыхарства, асабліва беларускае, вельмі беднае, мае ад 2 да 6 гектараў зямлі, з якой не пракорміся, прыходзіцца й самому ісьці на працу, дый дзетак пасылаць ў пастухі у далёкую Зэмгалію, Ліфляндыю, ці нават да багатага [illegible] у Латгаліі. Згодна умовы, дзеці павінны пасьвіць аж пакуль ні выпадзе сьнег і пакуль сам гаспадар не выправіць пастушка да бацькавай хаты, разьлічыўшыся з ім грашыма ці бульбай, вопраткай і абуткам.

Вяртаецца дзіцянё да хаты, патрэбна ісьці ў школу, а ў яго німа яшчэ ботаў ці кажуха, патрэбна на зароблены грошы купіць гатовае, або зробіць - гэта адымае так сама шмат часу, а тымчасам падыходзяць Каляды. Добра, калі за тыдзень да Каляд пастушок трапіў пайсьці ў школу, але і там ня прыходзіцца яму добра, німа калі дагнаць прапушчаны час.- Ледзьве-ледзьве сьнег з палёў пачынае таяць, як зноў вучню прыходзіцца думаць, дзе ён будзе працаваць летам. Тымчасам у вёску наяжджаюць гаспадары і пакрыху разьбіраюць вучняў яшчэ да Вялікдня у пастухі. З сакавіка школа зноў напалову пустуе, а пасьля Вялікдня ходзяць толькі маленькія, і то дзеці заможных бацькоў.- У траўні месяцы у аднакамплектнай школе можна знайсьці вучняў 5 - 10, рэдка болей.

Да гэтага трэба дадаць, што і да гэтага часу сярод бацькоў і нават саміх вучняў застаўся яшчэ стары пагляд, што, калі хлопчык ці дзяўчынка пахадзілі дзьве-тры зімы ў школу, навучыліся чытаць і пісаць, дык і досіць, хай ходзіць той, хто хоча за пана выйсьці.
Значную ролю ў жыцьці школы займае і школьны вучыцель, ад якога ў поўнай меры залежыць разьвіцьце школы.
Вось малюнак з жыцьця школы:
8 гадзін раніцы. Дзеці пакрыху зьбіраюцца ў школу: каму 4 кілемэтра, а каму і некалькі крокаў да школы; у 8 з паловай гадзін у школе гоман, сьмех; вучні дзеляцца сваймі перажываньнямі; да 9 г., а то і больш, да паловы 10 гадз. дзеці астаўлены самі сябе.
Але вось прыйшоў вучыцель, адразу пачынаецца малітва, а пасьля лекцыі.- Прайшлі тры лекцыі, даецца перапынак на 1 гадзіну, вучыцель ідзе да хаты сьнедаць, і ізноў вучні адні.- Пасьля перапынку яшчэ дзьве лекцыі. Скончыліся заняткі; вучні пайшлі да хаты, вучыцель на сваю палову, калі ён жыве пры школе, ці ў сваю хату. Дзень скончаны.
На другі дзень тое самае.
Стары, вядомы ўсім, малюнак з царскай школы, як быццам ня было ні войнаў, ні рэвалюцыі, ні новых дэмакратычных школьных устаноў. Цяжка гэта адзначаць, але, на жаль, у большасьці школ гэта так.
Рэдка знаходзіцца вучыцель ці вучыцелька, якія наладзілі знаёмствы з бацькамі вучняў, абследзілі свой раён, даведаліся аб матэр"яльным становішчы сваіх вучняў, аб іх здольнасьцях і магчымасьцях гэты здольнасьці праявіць. Вялікшая частка вучыцельства глядзіць на сваю службу так, як звычайны чыноўнік на сваю. Прызначаны заняткі з першага кастрычніка - ён і зьяўляецца толькі першага кастрычніка ў школу, ці нават пазьней, і чакае, пакуль дзеці самі даведаюцца аб тым, што вучыцель зьявіўся і распачаў заняткі. Нават, іншым разам, просьбы інспектуры паклапаціцца аб тым, каб прыцягнуць адразу-ж у школу ўсіх дзяцей школьнага ўзросту, асабліва першазімцаў, вольных ад заняткаў у полі, застаюцца без увагі.
Прышла вясна; ужо 18 траўня вучыцеля ў школе німа, застаецца толькі той, хто мае сям'ю, хто мае сваю гаспадарку пры школе, але і гэтага цікавіць больш свая гаспадарка, чым грамадзкае жыцьцё.-
Есьць вучыцелі і вучыцелькі, якія да гэтага часу чамусьці саромяцца зайсьці у хату селяніна і пагутарыць з ім аб сялянскім жыцьці, аб грамадзкіх справах.
Ведама, пры такім адношаньні да сваей працы, німа ніякай сувязі паміж школай і вёскай, як яе німа паміж вучыцелем і той моладзьдзю, з якой ён працуе, якую ён выхоўвае.
І вось, пры такім адношаньні вучыцеля да школы вучні школай мала зацікаўлены, бацькі на вучыцеля глядзяць як на чыноўніка і іх старыя пагляды на школу застаюцца такімі - ж самымі, якімі былі 20 год назад, асабліва моцна пануюць гэтыя пагляды сярод беларускага жыхарства, мала сьвядомага, матэр"яльна і духова прыгнечанага.
Гэтыя пагляды зьменяцца толькі тады, калі вучыцель бліжэй стане да вёскі, калі ён вальецца ў гэтую грамадзкую гушчу, стане на чале грамадзкае працы, калі ён будзе намвесцы працаваць ня толькі ў школе, але і па-за школай,

гуртуючы навокал сябе грамадзянства, асабліва моладзь, наладжваючы бібліатэкі, чытальні, рожныя культурна-прасьветныя арганізацыі, курсы і вячэрнія занияткі для дарослых па рожных галінах вясковае гаспадаркі. Тады вучыцель будзе карыстацца пашанай сярод грамадзянства, з ім будуць лічыцца, школа будзе наладжана і абавязковае навучэньне можна будзе правесьці без усялякіх штрафаў і пагроз.-

Асабліва патрэбна вучыцілям зьвярнуць увагу на адчыненьне пры школах гурткоў моладзі, каб захаваць у маладым пакаленьні каханьне да працы наогул, да працы грмадзкае, каб захаваць у іх маладых душах каханьне да свайго народу, каб пашыраць іх нацыянальную сьвядомасьць.-

Толькі працай беларускага грамадзянства у гуртках можна правесьці новыя тэорыі у вясковай гаспадарцы, новыя прыемы апрацоўкі зямлі, і тым самым палепшыць эканамічнае становішча латгальскага беларускага грамадзяніна.

Л. Журкоўскі.

## Іван Луцкевіч.

( 1919 - 1929 г. ).

Дзесяць гадоў таму назад адыйшоў ад нас першы піонэр адраджэньня Беларусі Іван Луцкевіч.

Сёньня - пасьля сьцеку гэтага часу - несьмяротныя ідэі вялікага тварца Незалежнай Беларусі ня толькі жывуць у народзе, але пылаюць і узьнімаюцца маладымі піонэрамі - беларускай моладзьдзю.

Іван Луцкевіч арадзіўся у 1881 годзе, 20 траўня.

У 1894 годзе, як вучань Лібаўскай гімназіі, Іван Луцкевіч задумваецца над цяжкай доляй беларускага народу, пачынае цікавіцца мінуўшчынай яго і марыць над адраджаньнем свайго краю.- Усе гэта дзеіцца на 13 годзе яго жыцьця.

У 1897 годзе паступае у Менскую гімназію і з гэтага часу пачынаецца яго шырокая праца сярод беларускай моладзі.

У 1902 годзе - будучы студэнтам Пецярбургскага Унівэрсітэту, гуртуе навокал сябе беларускае інтэлігенцтва, асабліва беларускую моладзь.

У гэтым жа годзе закладае у Пецярбурзе " Беларускі Кружок народнае асьветы", які выдае адначнеўку " Калядная Пісанка" і зборнік твораў Янкі Лучыны "Вязанка".

У 1903 годзе - арганізуе першую беларускую палітычную арганізацыю "Беларуская Рэвалюцыйная Грамада ", якая робіцца цэнтрам беларускага адраджэньня.

У 1904 годзе - выйджае у Вену, дзе друкуе цэлы шэраг сваіх прац аб Беларусі у нямецкіх часопісах.

У 1905 годзе - едзе на зьезд прадстаўнікоў соцыяльных партыяў у Фінляндыю - гэта быў першы голас прадстаўніка беларусаў на міжнародовай арэне.

У гэтым жа рэвалюцыйным годзе Іван Луцкевіч адведывае

ўсе куткі Беларусі і сьмелымі гарачымі прамовамі заклікае беларускі народ да усебаковага адраджэньня, а ласьне - да культурнага, гаспадарчага і палітычнага.

У 1906 годзе - пераcьледаваны ўладай, пераяджае у Вільню, дзе жыве пад псэўдонімам „ Іван Міхальчак " і вядзе працу на ніве беларускага адраджэньня разом з сваім братам Антонам і цэлым шэрагам іншых працаўнікоў, аддаў - шых шмат працы на беларускую справу, і выдае першую беларускую легальную газэту " Наша доля ".

У 1908 годзе - на ўсеславянскім зьезьдзе паступовага студэнства ў Празе Іван Луцкевіч выступае з прамовай і давoдзіць, што беларускі народ, як і іншыя народы, павінен мець свае самастойнае нацыянальнае існаваньне.
У далейшым часе - разом з палітычнай працай - займаецца зьбіраньнем помнікаў Беларускай культуры. Закладае у Вільні Беларускі Музэй, названы яго імем.

У 1915 годзе - у часе нямецкай акупацыі прыймае чынны ўдзел у арганізацыі міжнацыянальнай краевай арганізацыі " Конфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага" і закладае першыя беларускія вучыцельскія курсы.

У 1916 годзе - па ініцыятыве Івана Луцкевіча закладаецца " Беларускі Клюб ".

У 1918 годзе - 25 сакавіка сьвятая ідэя Івана Луцкевіча зьдзейсьняецца: ен бярэ удзел у абвешчаньні Радай Беларускай Народнай Рэспублікі Незалежнай Беларусі.
Гэта была найвялікшая хвіля шчасьця у жыцьці Івана Луцкевіча.

У 1919 годзе - закладае І Беларускую гімназію ў Вільні.

У 1920 годзе - 20 жніўня разьвітаўся з беларускім народам назаўседы.

Гэтыя голыя радкі, над якімі яшчэ займуцца беларускія дасьледчыкі, з жыцьця Івана Луцкевіча напамінаюць нам жыцьце беларускага народу, і тая афяра яго, а яна закон - чылася жыцьцем, напамінаюць нам сучасныя афяры маладых беларускіх піонэраў Усходняй і Заходняй Беларусі, і рож - ніца толькі тая, што Іван Луцкевіч памер уласнай смерцьцю вольнага грамадзяніна у выніку бязупыннай працы за лепшую долю свайго народу, а сучасныя барацьбіты, намесьнікі вялікага тварцы, пазбаулены праў працы за палепшаньне лесу сваей Краіны і канчаюць жыцьце за кратамі " дварцоў ГПУ і " беларускай калыскі " Лукішак, і, нажаль, гэта робяць тыя народы, што самі толькі нядаўна ўзарвалі ланцугі Расейскай манархіі і па гэты час памятуюць Сібір з яе хараством...

Не адзін сын расейскага ці польскага народу загінуў сярод непраходнай тайгі Сібіры, нясучы з сабой ідэю вызваленьня і адбудаваньня сваей Бацькаўшчыны.

Разом з імі, ва імя тэй жа ідэі, йшлі і сыны беларускага народу, але сьмерць іх наганяла на поўдарозе...

Адным з першых быў Іван Луцкевіч.

І сеньня, адзначаючы дзясятыя ўгодкі яго разлукі з намі, хочацца ўспомніць моладзі словы Янкі Купалы:

....... " Падымайся з нізін сакаліна сям"я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі !
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі! " .....

Народнае апавяданьне

Жыў дзед з бабай. Быў у іх сын - Янка. Калі ен вырас вялікі, а дзед з бабай сталі старыя, бацька й кажа сыну: " Трэба, сынку, табе жаніцца. Матка ўжо старая: працаваць ня можа".

Запраг сын каня і паехаў сватаць сябе нявесту. Едучы спатыкае ен чалавека, а гэта быў бацька той дзяўчыны, якую Янка абмяркаваў сябе у жонкі, і кажа:

- Здарова, дзядзька Ягор, куды Бог нясе ? -

А той адказывае: - на мельніцу. А ты куды ? -

- Еду ў сваты да тваей дачкі. -

- Вось і лепей і ня думай, бо ўжо дужа яна сярдзітая. Цяжка твое будзе з ей жыць. -

- Нішто, як-колечы патрапім - , і паехаў далей.

Дачка Ягора спачатку ўпіралася - як звычай і вадзіцца, але ўрэшце рэшт згадзілася пайсьці за Янку замуж. Прыйшоў дзень вясельля. Паехалі ў царкву, а малады ў свае кальмажку запрог наумысьня самага дрэнага і старога каня - мысьліў выказаць наперад перад будучай жонкай свой характар. Едуць, а конь ледзьве ступае. Раз сьцябануў каня - а той і вухам ня вядзе, вядома немаладзь. Параўняў, а конь толькі хвастом троху матануў.

- Ну, Каўліп ! трэцьцяга разу-не чакай - кажа злосна Янка. А калі конь і трэці раз не звярнуў ніякае увагі, дык скокнуў Янка на зямлю з кальмажкі, схапіў сякеру і адсек каню галаву.

Маладуха бачыць гэта дый матае сябе на вус - што гэта ее за мужанек.

Адгулялі вясельле і жывуць Янка з свае жонкай добра. Яна ніколі яму не пярэчыла і калі ен што загадываў, дык ніколі не чакала, каб ен казаў тры разы.

Вось і падыйшло лета. Пачалася ў полі страда. Аднойчы, працуючы ў полі, Янка заўважыў, што бальшаком да іх ідзе яго цешча. Хуценька кінуў касу і пабег задворкамі да хаты. Сказаў жонцы, каб перайм... маці, а сам нібыта пайшоў зноў у поле, але запраўды узьлез на хату: прысеў каля коміну - ну, будзе слухаць, што будуць размаўляць маці з дачкой.

- Дзень добры, матуленька ! -

- Добры дзень, мая дочанька ! Ну, як маеся, мая ты Зоранька - ясная ? -

- Ды, дзякаваць Богу, маманька ! Нішто, ен добры, іншы раз нават і ўступіць, але не чакай ад яго, каб ен што-небудзь казаў тры разы, а не - дык адразу пачынае біцца. -

- Ах ! ен антыхрыст - закіпела маці. - Дачку мак будзе няволіць. Пачакай! Я яму пакажу як зьдзекавацца над маім дзіцяткам ! -

Чуе гэта Янка, злосны уваходзіць ў хату і голасна загадвае жонцы:

- Схадзі ў поле, прывядзі каня і запрагі яго разам з маткай ў саху. Паеду у поле гараці. -

Спужалася жонка, ня стала яму пярэчыць і пайшла за канем. Прывяла каня і запрагае яго. Калі яна ўжо меркавалася ўпрэгчы матку, Янка й кажа:

- Ня трэба, лепей сьвядзі на гумно ды спутай, але глядзі - моцна.- Сказаў гэта і паехаў ў поле. Прывяла матку на гумно і давай путаць, а маці і кажа:
- Дачушка ты мая, ня путай мяне моцна, а спутай паслабей, каб я магла ўцячы да хаты.-

Як не баялася жонка Янкі, але ўсежткі паслухала маці і спутала яе слаба, а тая і уцякла да хаты. Прыйшла дамоў і апявядае аб ўсім, з прыкрамасі, свайму мужыньку.

Праз некаторы час пайшоў сам бацька ў госьці да дачкі. Убачыў Янка, што ідзе цесьць да іх: паслаў жонку пераймаць бацьку, а сам схаваўся за лазіну каля мастка, па якому пераходзіў цесьць.
- Добры дзень, дачанька ! -
- Добры дзень, татуля ! -
- Ну як жывеш, мая ты родная ? -
- Ды нішто, татачка, дзякаваць Богу ! -
- Ну, а як-жа сам-та, ўшто чалавек ? -
- Крыху сваравіты - , адказвае дачка. - Але нішто, звыклася я ўжо з ім: -
- Ну, нішто, дачушка. Толькі угаджай яму заўседы, дык ўсе будзе добра - , і пайшоў да хаты.

Янка чуе, што цесьць не такі як цешча, не такі зайдросны як яна, а таму пасьпяшаўся наўперад, каб з цесьцю прыняць гасьця. Прывіталіся, пажадалі адзін другому ўсяго добрага, увайшлі ў хату і пачалі частавацца. Пасьля добрага пачаступнку, павеў Янка свайго цесьця дабро свае паказываць. Ходзючы па хлявох і клецях, ўбачыў цесьць ў паветцы шмат хамутоў, ды й кажа зяцю:
- Даў бы ты мне, зяценька, якую парачку хамутоў.-
- Бяры -, кажа Янка. Ўзяў зяць хамут, падзякаваў за пачастунак і падарунак і пайшоў дамоў, а хамут павесіў на шыю. Падыходзячы да хаты, убачыла яго жонка з хамутом на шыі, падняла гвалт і пачала лаяць:
- Ах! ты, дурак набіты! Ах ! ты целяпень, ня мог ўцячы! Я дык уцякла. Вось заезьдзіў, што толькі хамут кінуў.-

Вось такім морам Янка і навучаў сваю жонку, якая па свайму характару была падобна маці, паваю і блажэй.

Запісана ў Пылдзенскай гміне Люцынскага Павету Янам
Кудраўцавым.

# Народныя песьні.

Лучына, лучынушка
Не ясна гарыш,
Да што-ж ты, лучынушка
У печы ні была.
Ліхой сьвекар бацюшка
Сьнегу палажыў ;
Ліхая сьвякровушка
Вады падліла.

...

Як на горкі на гары
Тры сады зеляны.
У першым садзе-вінаградзе
Расла трава рожа.
Любіць мяне друг-сярдэшны,
Хош я ні прыгожа.
У другім садзе-вінаградзе
Расла трава мята,
Любіць мяне друг сярдэшны,
Хош я ні багата.
У трэцім садзе-вінаградзе
Расла трава ліпа,
Любіць мяне друг сярдэшны
Хош я невяліка.

...

Як на горку сьнег напаў
Мой міленак з каня спаў.
Ен упаў і ляжыць,
Пакуль міла прыбяжыць.
А міла прыбяжала,
За ручаньку утрымала.
Ты вядзі каня к катрыны,
Прыхадзі ка мне ў пярыны
А ў пярыны мягка, мягка,
Цалавацца сладка, сладка.
А з пярыны пух вон,
А мілому дух вон.

------

# МАСТАЦКАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ.

Тураўшчанка.

## Мінулае.

Дні векапомныя, марна пригожыя,
Сонейка ласкай сагрэтыя дні,
Годы каханьня бязьмерна вялікага
Гдзе вы - куды так раптоўна,бязьлітасна,
Вы ад мяне уцяклі.

Душой крышталевай і сэрцам кахаючым
Да сьвятла і да сонца цягнулася я.
Я розум і волю - мой скарб недакрануты,
Людзям ніба дары з сабою нясла.

Сьвятых адчуваньняў раба паслухмяная,
Да маці-зямелькі хілілася я,
Травінку нікчэмную ўсьцяж цалавала;
Душа да складаньня афяраў ірвалась.

Час шоў... Пал ў душы не спаткаў спачуваньня,
Дары з пагардой адхілілі яны,
Каханьне і веру нагамі стапталі
І зьдзекам спаткалі аяры мае.

Час шоў... З ім разом безупынна і мерна
Зьнікалі каханьне і вера з грудзей...
І агледзіўшысь - з жахам знайшла ў сябе я
Толькі жаль па патрачаных сілах душы.

Дні векапомныя,марна пригожыя,
Сонейка ласкай сагрэтыя дні,
Годы каханьня бязьмерна вялікага
Гдзе вы - куды так раптоўна,бязьлітасна
Вы ад мяне уцяклі.

# Р а з ь в і т а н ь н е.

Між паху вясеньняй прыроды
І сьвісту ў ей салаўя,
Ля рэчкі на захадзе сонца
Ты доўга стаяла адна.

Спазьніўшысь касулька зайграла
Па бельлю пахучых цьвятоў;
Ты зироку і ночкі чакала
І вочы спусьціла ў дол.

Зорка на небе зьявілась;
Другая за ей, і ўжо шмат ...
Сэрца дзяўчыны забілась,
Жыцьце... Эх, ня трэба... ўжо час.

Сюды хутка прыдзе мой мілы !
Вочны шапталі твае;
Ен прыдзе - ня ўбачыць дзяўчыны...
Чаму ? мо" спытае ў сябе.

Адказ хай пачуе ад хваляў,
Што хутка абнімуць мяне -
А ветрык шуміць каля гаю;
Хай песьню разлукі пяе.

М. С.

Тураўшчанка.

Сон аднаго жыцьця.

Гэта было у сямнаццатую вясну яго жыцьця. Сямнаццатая вясна - колькі хараства, колькі чароўных мараў у гэту адзіную пару чалавечага бытаваньня і колькі радасных сноў, калі сэрца б"ецца на спатканьне сонцу, вецярку і шопту гаечка і калі здаецца, што толькі цябе належыць ўсе, ўсе: і сонца, і вецярок і гаечак...

Гэта было ў дзень, калі нежна перашоптываюцца маладыя лісточкі ў лесе, па ральлі з важным выглядам шпацэруюць шпакі, а абуджаная зямля дыхае карна і горача, ад чаго кроў шуміць у віскаx і п"яна круціцца галава... Гэта было у дзень салодкіх, вабных пахаў вясны.

З расчыненымі вачыма ен марыў і дрыжэў ад невядомага салодкага болю, сэрца білася радасна і буйна і здавалася - ня вытрымае гэтага напору шчасьця і парвецца, таму абедзьве рукі трымаў прыціснуўшы да яго.

А шчасьце падступала да горла, душыла і хацелася крычэць, плакаць каб не захлыснуцца гэтым вагнем, каб магчы думаць і зразумець, што сталася. А сталася - сталася немагчымае, чаму ня меў сілы даць веры: сеньня яна пацалавала яго ў першы раз. Зусім нечакана яна прытулілася да яго сваім зграбным целам, глыбока, глыбока, ў самую душу заглянула сваймі сінімі вачыма і моцна і разам нежна пацалавала яго у вусны. Пакуль ен здолеў ўцяміць, што зрабілася, яна была ўжо далека, толькі легкі, як сама вясна, флер яе сукні мітусіўся між дрэваў, ды далека навокал зьвінеў срэбны дзячоцкі сьмех.

А ен - ен як няпрытомны пабяжаў ўперад, без сэнсу, без мэты, ўцячы ад самаго сябе, ад буйнага дрыжэньня ў сэрцы, ад гаму крыві ў галаве і пацалунак паліў яму вусны, сушыў, калоў... і нясьмела праводзіў па іх рукой і пасьля з зьдзіўленьнем аглядаў гэтую руку. І калі, нібы заклікаючы прыроду у сьведкі свайму маладому шчасьцю, агляну́ўся навокал, дык ўбачыў, што яму на спатканьне усьміхаецца гаевая палянaчка, а на ей пралескі, сінія і глыбокія у сваім задуменьні, як яе вочы... Як зачараваны стаяў ен і глядзеў на гэтыя пралескі-вочы і, ня быў магчы больш стрымаць сваe пачуцьці, ен упаў каля іх і цалаваў і пешчыў сінія задуменыя красачкі, і здавалася, што цалуе і пешчыць вочы, яе вочы, вочы як пралескі і пралескі як вочы...

І было шчасьце - вялікае, патаемнае, адвечна маладое шчасьце, авінутае п"яным пахам зямлі і чыстасьцю сямнаццатае вясны.

З таго часу прайшло шмат гадоў.

Ен, з мутнымі вачыма, зьсівелымі валасамі і нясьмелымі дрыжачымі рукамі дажываў свой век на чужыне. Па за ім было шмат магіл, яшчэ больш болю і расчараваньняў: ен перажыў ўсе, што змушае дрыжаць і біцца чалавечую душу, ен перажыў сам сябе. З зацемненым розумам, з абрыўкамі далекіх успамінаў, сьцяняўся ен па чужой зямлі, без мэты у будучым,

весь у мінулым. Жыцьце бяжала міма яго, не закранаючы яго марудных дзен. Ня было жаданьняў, ня было думак і здавалася - скончана жыцьце.

Але аднойчы, ў пару, калі пачынаюць апранацца дрэвы, сінее неба і вострым духам дыхае зямля, разам з цеплым вецяркам ў яго душу маленькім чарвяком запаўзла нуда.
Ў несьвядомай тузе прыслухоўваўся ен да нясьмелых галасоў у сваім сэрцы, імкнуўся зразумець і марне напружаў свой стары, ссохлы мозаг.

Смутак жа бязупынна рос і пагражаў захлыснуць паўмертвае сэрца.

І вось, раз, сьцяўшы галаву рукамі і углядаючыся на зубчаты край далекага бору, ен раптоўна адчуў і зразумеў: яго клікала да сябе на спакой бацькаўшчына.

Слухаючыся неадступнага зову свае зямлі, ен пачаў свае апошняе падарожжа. Калі-ж на мяжы заклапочаны чыноўнік строга запытаўся ў яго, чаму ен вяртаецца і што яму тут патрэбна, і той, падняўшы свае цэжкія павекі і зьдзіўлена аглядаючы яго, адказаў: „ Я іду паміраць на радную зямлю", дык ен адразу адчуў нейкі ціскі зім на душы, на яго нібы пахнула расчыненай магілай, з якой на яго глядзяць жутлыя вочы нябожчыка, і ен, сьпяшаючыся, выканаў ўсе патрэбнае і адпусьціў падарожніка.

І вось, ен зноў у хаце, у такім жа старым і няветлівым даму, як ен сам, але спакою німа і ў першы жа дзень свайго побыту, штурхаемы чымсь мацнейшым, ен бяздумна пацягнуўся да бору, ў які абярнуўся калісь малады гаечак, а там ... раптам ўбачыў палянку і на ей пралескі, сінія, глыбокія як вочы пралескі.
Ў гэты момант ў душы зазьвінелі нейкія струны, як далекі дзяводкі сьмех, з-пад попелу многіх дзесяцігодзьдзяў глянулі на яго сінія вочы, .. і задрыжэлі сухія калены, і цяжка апусьціўся каля задуменых кветачак на зямлю, а па зморшчаных шчаках цяклі скупыя сьлезы старасьці і марне пражытага жыцьця... А ў спогад сьлязам глуха калацілася сэрца і мары, далекія як сон, як галасы з таго сьвету, віхаліся наўкола сівай галавы.

Так сядзеў ен да часу, пакуль кветачкі не заплюшчыліся на ноч і па бору пайшоў глухі шопат. Тады згарбіўшыся і пастарэўшы яшчэ на многа год, паплеўся да хаты.

А ў хаце, сідзючы перад печчу і нявідуча ўглядаючыся у вагонь, зразумеў, што адзінае, на што жыў і што меў у жыцьці, гэта - вочы як пралескі і пралескі як вочы...

# ХРОНІКА.

АГУЛЬНА-БЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД.
26 студня 1930 году у Дзьвінску адбудзецца Агульна-беларускі Зьезд, ў якім прыймаюць удзел ўсі беларускія арганізацыі Латвіі і вучыцельства. На павестцы дня - абгаварываньне далейшых крокаў працы.

НАРАДЫ БЕЛАРУСКАГА ВУЧЫЦЕЛЬСТВА.
У сувязі з актывізацыяй беларускай працы ў Латвіі адбыліся тры нарады беларускага вучыцельства: ў Рызе 21-23 сьнежня 1929 г., ў Дзьвінску 28-29 сьнежня 1929 г. і ў Люцынскім павеце 5 студня 1930 г.

БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РАДА.
У летку 1929 г. адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў ўсіх беларускіх арганізацый ў Латвіі, на якой пастаноўлена утварыць вышэйшую беларускую арганізацыю " БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ РАДУ ", якая мае кіраваць ўсей беларускай справай ў Латвіі. Статут "БНР" ўжо выпрацаваны і ў хуткім часе перадаецца на зацьвярджаньне у Рыжаскі Вакружны Суд.

БЕЛАРУСКІ ШТОМЕСЯЧНІК.
У хуткім часе выходзе з друку беларускі штомесячнік "ШКОЛА і ЖЫЦЬЦЕ" - ворган Т-ва беларускіх вучыцялеў ў Латвіі. Рэдактар М.Дзямідаў. Адрас: Rīgā, Tumes ielā Nr.2.

ЧАСОПІС " НАША ДОЛЯ ".
З пачаткам 1930 г. пачынае выходзіць беларускі часопіс "НАША ДОЛЯ " - ворган беларускай дэмакратычнай думкі ў Латвіі. Першы нумар выходзе 24 студня. Рэдактар У.Відаўскі. Адрас: Daugavpilī, Šosejas ielā Nr.174.

АДЧЫНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ Ў РЫЗЕ.
У пачатку 1929/30 вуч.году ў Рызе адчынілась Беларуская вячэрняя гімназія. Дырэктар Ал.Радзько. Адрас гімназіі: Rīgā, Grēcinieku ielā Nr.28.

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Т-ва Беларускай моладзі ў Латвіі пачала сваю працу 25 красавіка 1928 г. Дзейнасьць Т-ва накіравана на аб"еднаньне беларускай моладзі, асабліва яе селянскага элементу, а таксама на шлях падняцьця культурнае роўні і нацыянальнае самасьвядомасьці. - Дагэтуль праца Т-ва здалела ахапіць Люцынскі павет, дзе ўжо працуюць 10 аддзелаў. У цякучым 1930 годзе дзейнасьць Т-ва мае ахапіць Дзьвінскі і Рэжыцкі пав.

НАДЗВЫЧАЙНЫ СХОД Т-ВА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
15 сьнежня 1929 г. у сувязі з агульным народным перапісам адбыўся Надзвычайны сход сяброў Т-ва беларускай моладзі. Абгаварывалася справа пашырэньня культурнай працы сярод беларускага жыхарства.

ВЕЧАРЫНА Т-ВА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
1 лютага 1930 г. у Рызе на Школьнай вуліцы И-13. ў салі Т-ва Эстонскіх студэнтаў Т-ва Беларускай Моладзі ладзіць Канцэрт-баль, на якім адбудуцца паасобныя выступленьні беларускага хора пад кіраўніцтвам гр.М.Ф.Грыбскага і іншыя музыкальна-вакальныя нумэры.

# З ь м е с т :



---

Адказны рэдактар Н.Ў.Пінскэя. — Выдавец: Т-ва Беларускай Моладзі ў Латвіі.

---



